


# БЕЛАРУС

№441 • Студзень 1997г.
Год выд. 46

BIELARUS / Belarusan Newspaper in Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
Address: P.O. Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A. Price $3.00


## СПАТКАНЬНЕ У ДЗЯРЖАЎНЫМ ДЭПАРТАМЭНЦЕ

Пасьля рэфэрэндуму, прапхнутага прэзыдэнтам Лукашэнкам у лістападзе мінулага году, палітычнае становішча ў Беларусі значна пагоршылася. Дзяржаўны Дэпартамэнт выклікаў свайго пасла Кенэта Ялавіца зь Менску на кансультацыю адносна палітычнага стану ў Беларусі і ўзаемадачыненьняў паміж дзьвюма краінамі. У чацьвер 19-га сьнежня мінулага году, на прапанову сп. Ялавіца, беларуска-амэрыканскага дэлегацыя мела чарговую нараду з прадстаўнікамі Дзяржаўнага Дэпартамэнту ў Вашынгтоне. У складзе дэлегацыі былі: Расьціслаў Завістовіч, старшыня Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі; Алеся Кіпель, Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва; Галіна Русак, Беларуска-Амэрыканскае Культурна-Асьветнае Таварыства; і Алекс Сільвановіч, старшыня Камітэту Дапамогі Ахвярам Чарнобылю ў Беларусі. У нарадзе прыймаў удзел сп. Джэймс Колінс, спэцыяльны пасол ЗША для краінаў СНД; Кенэт Ялавіц, пасол Злучаных Штатаў у Беларусі; Джэк Сігал, дырэктар аддзелу па справах Украіны, Беларусі і Малдовы; Джордж Крол, памочнік спэцыяльнага пасла для краінаў СНД; і Марыя Рудэнскі, кіраўнік Беларускага Бюро ў Дзерждэпартамэнце.

Паколькі прэзыдэнт Лукашэнка сваімі паводзінамі спыніў разьвіцьцё Беларусі, як адчыненае дэмакратычнае краіны і паставіў яе на шлях супраціўленьня існуючым дэмакратычным нормам, сп. Колінс казаў, што Злучаныя Штаты ня будуць браць удзел ў тых амэрыканскіх дзяржаўных праграмах, якія могуць узаконьваць недэмакратычны кірунак прыняты ўрадам Беларусі альбо прыносіць карысьць гэтаму ўраду. Злучаныя Штаты, паводле сп. Колінса, будуць падтрымоўваць праграмы недзяржаўных арганізацыяў, якія, у адрозьненьне ад палітыкі прэзыдэнта Лукашэнкі, будуць садзейнічаць разьвіцьцю дэмакратычных прынцыпаў у жыцьці грамадзтва. Акрамя гэтага, Дзяржаўны Дэпартамэнт будзе заахвочваць урады іншых краінаў да цеснага супрацоўніцтва са Злучанымі Штатамі ў іхных дачыненьнях з урадам Беларусі.

Нарада праходзіла ў вельмі прыязнай атмасфэры. Сп. Колінс адзначыў, што Дзяржаўны Дэпартамэнт не пакідае цікавасьця поглядамі прадстаўнікоў беларуска-амэрыканскага грамадзтва ў справе палітыкі, якую, на думку беларуска-амэрыканскае дэлегацыі, павінны праводзіць Злучаныя Штаты Амэрыкі ў дачыненьні да Беларусі.

Беларуска-амэрыканская дэлегацыя выказала сваю падтрымку палітыцы Злучаных Штатаў, сфармуляванай сп. Колінсам. У дадатак, яна адзначыла свой непакой у адносінах да палітыкі расейскіх дзяржаўных колаў і іхнага вялікадзяржаўніцкага ўплыву на цяперашні ўрад Беларусі.

Пасол ЗША Кенэт Ялавіц падзяліўся сваімі ўражаньнямі аб падзеях і жыцьці ў Беларусі. Гаворачы пра некаторыя сумныя бакі палітычнага беларускага жыцьця, сп. Ялавіц адзначыў, што часамі бываюць там і станоўчыя зьявы, адной з якіх ён назваў вываз з Беларусі ў Расею ракетаў, узброеных ядзернымі бомбамі, які адбыўся незадоўга да яго прыезду ў ЗША. Нягледзячы на тое, што пераход да рынкавай эканомікі ў Беларусі амаль спынены, прыватызацыя малых прадпрыемстваў, аднак, паводле сп. Ялавіца, паволі прадоўжваецца.

Закончваючы свой агляд падзеяў у Беларусі, сп. Ялавіц, з тыповым для яго аптымызмам, адзначыў, што палітычнае жыцьцё ў Беларусі разьвіваецца не на карысьць дзяржаўных уладаў, якім робіцца ўсё цяжэй гэтае жыцьцё кантраляваць.

**Расьціслаў Завістовіч**

## БЕЛАРУСЬ ЖЫВЕ І ЗМАГАЕЦЦА

Адразу пасьля лістападаўскага перавароту на Беларусі, Крэмль разам з лукашэнкаўскай хунтай пачаўператасоўку кіруючых кадраў. Зьмененыя старшыня КДБ і Генеральны пракурор, міністар абароны, міністар фінансаў, старшыні Вярхоўнага і Канстытуцыйнага судоў, цэлы шэраг іншых міністраў і іх намесьнікаў. Гэты працэс яшчэ доўжыцца. Прытым паўсюдна прызначаюць і ставяць кіраўнікамі рускіх і агентаў расейскіх сьпэцслужбаў. У якасьці «беларуса» па паходжаньні тут фігуруе толькі новапрызначаны міністар замежных справаў Іван Антановіч, фігура надзвычай адыёзная, былы капээсэсаўскі функцыянер, камуніст і тайняк, які па здольнасьцях да хлусьні саступае, бадай, толькі Лукашэнку.

Былы міністар замежных справаў Сянько, прафэсійны дыпламат, выраблены апаратчык (закончыў школу КДБ у Маскве) і адданы службіст лукашэнкаўскай хунты чакае новага прызначэньня. Гэтак жа як і яго намесьнік, прафесійны рускі разьведчык Цэпкала, якога плянуюць накіраваць у ЗША.

Канфуз атрымаўся з ваканасіяй прэм'ер-міністра. Крэмль і маскоўская фінансавая мафія тайна піхалі сюды сваю стаўленіцу, вядомую лукашэнкаўскую фаварытку банкірку Віньнікаву. Аднак Лукашэнка нешта непадзяліў зь Віньнікавай і, успыхнуўшы нянавісьцю, публічна заявіў, што зробіць яе прыбіральшчыцай. Даведаўшыся пра пляны сваіх маскоўскіх патронаў наконт Віньнікавай, Лукашэнка, што называецца, закусіў цуглі і арыштаваў «харошую рускую жэншчыну». Цяпер фаварытка калгаснага дыктатара сядзіць у турме КДБ у Менску з усімі патрэбнымі абвінавачваньнямі.

У лукашэнкаўскі «парлямант» уключаны зь небыцьця такія адпрацаваныя капээсэсаўскія кадры як былы 1-ы сакратар ЦК КПБ Малафееў, вядомы Дзямянцей («шастой мікрафон»), былы старшыня Вярхоўнага суду запойны алкаголік Каравай, дырэктар Менскага піўзаводу і былая дэпутатка Вярхоўнага Савету СССР Дубко і г.д.

У эканоміцы працягваецца запляніраваны абвал. Словам акупанты і разбуральнікі Беларусі працуюць добра. Эканамічны сэнс гэтай мафіёзнай палітыкі расейскага ўзору можна вызначыць адным словам — рабаваньне. Палітычны зьмест больш складаны. Праз эканамічны развал, раскраданьне багацьцяў стварающа ўмовы для інкарпарацыі Беларусі ў Расею.

У 1996 годзе я неаднаразова казаў і пісаў пра расейскі плян акупацыі Беларусі і пра новыя расейскія ініцыятывы, якія павінны узьнікнуць у пачатку 1997 году. «Ініцыятывы» ўжо выказаныя. Б. Ельцын прапанаваў "аб'яднаць" Беларусь з Расеяй і сыграць у чарговы рэфэрэндум.

Беларускі Народны Фронт гатовы да грамадзкага змаганьня з расейскай нэакаланіяльнай палітыкай. Пытаньне, аднак, у тым ці гатовае да гэтага беларускае грамадзтва. Пасьля нахабнай заявы Ельцына БНФ праводзіць няспыннае пікетаваньне расейскай амбасады ў Менску з пратэстам супраць палітыкі і плянаў расейскай акупацыі Беларусі. Арыштаваныя й кінутыя ў турму на кароткія тэрміны дзесяткі фронтаўцаў. Але пікеты, мітынгі, дэманстрацыі адбываюцца мэтадычна. Людзі настроеныя рашуча. Схапіць сваіх не даюць. 10-га студзеня, напрыклад, на групу фронтаўцаў, што вярталіся з пікету, напалі пераапранутыя ахоўнікі Лукашэнкі. Бойка пачалася такая, што спыніўся вулічны рух. Пікетчыкі (дзе, між іншым, было шмат жанчын і пажылых людзей) разагналі лукашэнкаўскіх паслугачоў і нікога не дазволілі схапіць.

Задача ў Фронце пастаўлена выразная і паведамлена адкрыта — падрыхтаваць грамадзтва да масавага

(Працяг на б. 2)

## ВІЗАВАЯ ЛЯТАРЭЯ ДЛЯ ЧЫТАЧОЎ БЕЛАРУСА

Дзяржаўны Дэпартамэнт ЗША нядаўна абвясьціў умовы чарговай візавай лятэрэі, у выніку якой у 1997 годзе будзе разыграна 55 тысячаў візаў або зялёных картак, якія даюць магчымасьць сталага жыцьця у Злучаных Штатах. Прымаць удзел у лятэрэі могуць усе асобы, народжаныя у Беларусі і маючыя сярэднюю адукацыю. Каб падаць заяўку на ўдзел у лятэрэі, трэба на чыстым аркушы паперы надрукаваць або напісаць выразна па-ангельску наступныя дадзеныя.

1. Прозьвішча і імя (прозьвішча падкрэсьліць). Напрыклад: Smith John
2. Дату й мейсца нараджэньня. Напрыклад: 15 November 1961, Munich, Bavaria, Germany
3. Імя, дату і мейсца нараджэньня жонкі (мужа) і дзяцей. У выпадку выйгрышу аднаго з бацкоў неженатыя дзеці да 21 году і жонка або муж таксама атрымліваюць права на візу.
4. Паштовы адрас удзельніка лятэрыі. Адрас павінен быць дакладны і акуратны.
5. Родную краіну ўдзельніка лятэрыі у тым выпадку, калі адрозніваецца ад краіны нараджэньня.
6. Прыкласьці адносна новы фотаздымак памерам 37х37 мм. На адвароце напісаць імя друкаванымі ангельскімі літарамі. Фотаздымак трэба прыляпіць да заяўкі кавалачкам празрыстай стужкі.
7. Падпісаць заяўку.

Заяўку можна высылаць толькі звычайнай або лётніцкай поштай. Заяўка павінна быць атрымана апрацоўчым цэнтрам не пазьней і не раней як у пэрыяд з 3-га лютага да 5-га сакавіка 1997 году.

Канвэрты павінны быць даўжынёй 15-25 і шырынёй 9-11 см. Там дзе пішацца зваротны адрас, трэба перш па-ангельску напісаць краіну нараджэньня, а ніжэй той самы адрас, каторы пададзены у заяўцы, на другой лінейцы поўнае імя, на трэцяй — вуліцу і нумары, на чацьвертай — горад або вобласьць і на пятай краіну дзе жыве ўдзельнік лятэрыі.

Заяўкі трэба высылаць на адрас: DV-98 Program, National Visa Center, Portsmouth, NH 00212, USA

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 30 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 30 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## КАЛЯДНЫ ФЭСТЫВАЛЬ У ЧЫКАГА



*Прыбіральніцы ялінкі Люся Брушкевіч-Яламаў і Вера Рамук*

Каляды ў кожнага народу вызначающца цікавымі звычаямі, традыцыямі і каляднымі ўборамі ялінак. Беларускі народ захаваў адменныя Калядныя звычаі; багатую Куцьцю, гульні, варажбу, прыгожыя калядкі, калядоўшчыкаў і ялінку.

У Чыкага, Музэй Навукі і Індустрыі спапулярызаваў Калядную Ялінку, даючы нагоду шматлікім этнічным групам выстаўляць свае ялінкі ды ўдэкараваць іх сваімі апрычонымі арнамэнтамі. Побач ялінкак выстаўляюцца таксама жолабкі з фігуркамі Сьвятой Сям'і, пастушкоў, мудрацоў і хатняе жывёлы. На сцэне Музею ладзяцца Калядныя праграмы.

Беларускі Каардынацыйны Камітэт у Чыкага прыймае ўдзел у гэтым урачыстым Калядным Фэстывалі ўжо 19 гадоў.

Калядны Фэстываль пачаўся 22-га лістапада і трываў да 5-га студзеня.

Беларуская ялінка была ўдэкараваная саломкавымі арнамэнтамі у вясёлкавых калёрах, былі й скрыначкі розных выглядаў і памераў з прыгожымі ўзорамі. Пад ялінкай быў выстаўлены вялікі абраз мастака Юзафа Пучынскага з зімовым беларускім пэйзажом і Калядоўшчыкамі.

Ялінку прыбіралі сп-ні Вера Рамук,. адказная за наладжаньне, Ірэна Пануцэвіч, Людвіка Бяленіс, Люся Брушкевіч-Яламаў, сп. Нікодым Жызьнеўскі ды маладняк Тамі Кучура і Джон Кэр.

Калянды Фэстываль — вялікая зімовая атракцыя для жыхароў Чыкага й ваколіцаў, асабліва для дзяцей, якіх спакушаюць зыркія упрыгожаньні, каб памацаць і патрымаць іх.

Беларускую ялінку разьбіралі 8-га студзеня сп-ні Ірэна Пануцэвіч, Людвіка Бяленіс, Вера Рамук, Люба Кавалёнак і сп. Нікодым Жызьнеўскі.

За ўсе гэтыя стараньні шчырая падзяка ад беларускага грамадзства, асабліва сп-ні Людвіцы Бяленіс за нарыхтоўку ялінкавых арнамэнтаў.

**Др. Вітаўт Рамук**

## БЕЛАРУСЬ ЖЫВЕ І ЗМАГАЕЦЦА

(*Працяг з б. 1*)

супраціўленьня антыбеларускаму рэжыму і захопніцкай палітыцы Масквы. Мы добра ўсьведамляем, што цяпер толькі нацыянальная беларуская ідэя можа аб'яднаць беларусаў на змаганьне з рэжымам і акупацыяй. На 25 сакавіка ў сьвяты Дзень Незалежнасьці Беларусі ўжо прызначаны вялікі мітынг і дэманстрацыя. Гэты рух за свабоду і незалежнасьць будзе пашырацца. Гнілая Расейская імпэрыя не павінна таптацца на нашай зямлі.

**Зянон Пазьняк,**
**старшыня БНФ «Адраджэньне»**

## ПРА БЕЛАРУСЬ НА ІНТЭРНЭЦЕ

Пад стары Новы Год на Інтэрнэце з'явілася новая www-старонка, прысьвечаная Беларусі. Яна рэпрэзэнтуе БІНІМ і газэту «Беларус», беларускіх пісьменьнікаў на эміграцыі. Старонка яшчэ у працэсе станаўленьня, але ўжо зараз на ёй можна прачытаць асобныя кнігі, выдадзеныя БІНІМ (творы Дудзіцкага, Цэлеша, Віцьбіча), а таксама артыкул В. Кіпеля "Notes on Belarusian-American-English Literary Relations", кнігу Б. Рагулі «Беларускае студэнцтва», «Драмы» Янкі Юхнаўца, атрымаць зьвесткі ў ангельскай мове пра пісьменьнікаў на эміграцыі: Юрку Віцьбіча, У. Дудзіцкага, М. Цэлеша, Янку Юхнаўца: прачытаць нарыс Ю. Віцьбіча «Ходзіць па Беларусі Рагнеда» ў перакладзе на ангельскую мову Рагнеды Рагулі; даведацца пра гісторыю БІНІМ і газэты «Беларус». У самы бліжэйшы час тут з'явіцца электронная версыя газэты: будуць зьмяшчацца асобныя артыкулы з чарговых нумароў, а таксама рыхтуецца вялікі культуралягічны ангамоўны артыкул на тэму «Беларуская культура і таталітарызм». На старонцы пададзены электронныя адрасы і кніга гасьцей: калі ласка, калі хто мае якія заўвагі, ідэі, прапановы ці пажаданьні або матэрыялы пішыце, дапамагайце зрабіць старонку, прысьвечаную беларускай эміграцыі, цікавейшай.

Адрас старонкі наступны: http://www.thing.net/~ap/belarus.

*З жыцьця ў Нью Джэрзі*

## СУСТРЭЧА З БЫЛЫМ СТАРШЫНЁМ КАНСТЫТУЦЫЙНАГА СУДУ

Сп. Валеры Ціхіня, былы старшыня Канстытуцыйнага Суду, зьліквідаванага ў выніку згвалчаньня канстытуцыі прэзыдэнтам Лукашэнкам, наведаў у студзені сёлета Злучаныя Штаты, дзе сустракаўся зь юрыстамі і палітыкамі. Сп. Ціхіня прыехаў як госьць асацыяцыі амэрыканскіх адвакатаў для абароны правоў чалавека. На прапанову гэтай арганізацыі адбылася ў нядзелю 26 студзеня сустрэча сп. Ціхіні і зь беларусамі Нью-Джэрзі і Нью-Ёрку. Спатканьне прайшло ў грамадзкай залі царквы Маці Божай Жыровіцкай ў Гайленд-Парку. Гасьця грамадзе прадставіў др. Вітаўт Кіпель. Сп. Ціхіня расказаў пра палітычныя падзеі апошніх месяцаў на Беларусі, дзе наглыбыўся ранейшы канстытуцыйны крызіс існуюць дзьве канстытуцыі і два парлямэнта — адна канстытуцыя дэмакратычная (1994 году) і законны Вярхоўны Савет (на чале зь Сямёнам Шарэцкім) і адна канстытуцыя антыдэмакратычная (уведзеная ў лістападзе летась на аснове сфальсыфікаваных вынікаў антыдэмакратычнага рэфэрэндуму) зь нелігітымным Нацыянальным Сходам і дыктатарам-прэзыдэнтам. За пагвалтаваньне дэмкратычнае канстытуцыі і злаўжываньне ўладай, сказаў дакладчык, прэзыдэнт Лукашэнка раней ці пазьней сядзе на лаву падсудных.

У Беларусі дзеіць цяпер дэмакратычная апазыцыя, створаны камітэт абароны дэмакратыі, хоць на жаль, шмат якія апазыцыянеры дзеюць разрознена. На дадзеным этапе змаганьня, сказаў сп. Ціхіня, найбольшы «вораг» Лукашэнкі — гэта эканоміка, якую прэзыдэнт прыбраў да сваіх рук. Сёньня ў Беларусі 80 працэнтаў бюджэту дзяржавы знаходзіцца ў прыватным распараджэньні Лукашэнкі — каму хоча, таму дае, на што хоча, на тое выдаткоўвае, безь ніякага кантролю з боку заканадаўчага воргану ўлады.

У выніку ўсяго гвалту над дэмакратычнымі нормамі Беларусь апынулася ў міжнароднай ізаляцыі, і хоць гэтая ізаляцыя прыносіць шкоду таксама звычайным людзям на Беларусі, яна, на думку дакладчыка, дасьць з часам і пазытыўныя вынікі.

Што да ролі Расеі ў сучасным крызісе на Беларусі, дык афіцыйная Расея зацікаўленая не ў беларускай дэмакратыі, а ў сваіх геапалітычных разьліках — Беларусь патрэбная Крамлю ў разрахунках з Захадам як пляцдарм, як буфер, як транзытная тэрыторыя. Сп. Ціхіня ўважае таксама, што Лукашэнка зь ягонымі папулісцкімі здольнасьцямі і з падтрымкай такіх палітыкаў, як фашыст Жырыноўскі, камуніст Зюганаў і нацыяналіст Лебедзь, мае ўсе шансы стацца прэзыдэнтам расійска-беларускай фэдэратыўнай дзяржавы. У гэтым тоіцца вялікая небясьпека для беларускай дзяржаўнасьці і дабрабыту.

Дакладчык адказаў на шматлікія пытаньні вялікае грамады прысутных. Пасьля гэтага адбыўся супольны абед з гасьцём, дзе гутаркі ішлі на беларускія і беларуска-амэрыканскія тэмы.

Наступага дня сп. В. Ціхіня адляцеў зь Нью-Ёрку ў Менск.

**Я.З.**

## БЕЛАРУСКАЯ ЯЛІНКА Ў МАДЗЯРСКІМ ЦЭНТРЫ

Сёлета, як і папярэднія гады, Беларускае Культурна-Асьветнае Таварыства ўзяло ўдзел у ладжаньні міжнароднае Ялінкі у Мадзярскім Цэнтры ў Нью Брансьвіку. Як і мінулыя гады, нашая ялінка выдзялялася сваёй далікатнай прыгажосьцю. Сёлета, для ўпрыжожаньня ялінкі было ўжыта шмат саламяных дэкарыцыяў, якія падаравалі сп-ва А. Сільвановічы. Ялінкі ў Мадзярскім Цэнтры — шматгадовая традыцыя і прыцягвіюць яны шмат наведвальнікаў з гораду й ваколіцаў.

## БЕЛАРУСКІЯ МАСТАЦКІЯ ВЫЯЎЛЕНЬНІ

Фірма Джонсан і Джонсан праводзіць ў сваёй галоўнай кватэры у Нью Брансьвіку, Нью-Джэрзі выстаўку беларускага мастацтва: «Беларускія Мастацкія Выяўленьні» у днях ад 16-га сьнежаня 1996 да 25-га студзеня 1997 году.

Выстаўка ладзіцца па ініцыятыве Беларуска-Амэрыканскага Культурна-Асьветнага Таварыства і Беларускай Мастацкай Асацыяцыі у Нью Джэрзі. У выстаўцы бяруць удзел 19 мастакоў. Выстаўленыя працы ведамых беларускіх мастакоў ды гэтаксама працы дзяцей, пераважна зь Беларусі.

## ЯЛІНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Стараньнем Аддзелу БАЗА ў Нью-Джэрзі, ды асабліва старшыні Аддзелу Ю. Азаркі, ды сям'яў Др. Ю. Кіпеля, В. Тура, Я. Азаркі і Д. Тэрыса была наладжаная дня 12-га студзеня ялінка для дзяцей у залі Жыровіцкай Божай Маці ў Гайлянд Парку.

Дзяцей было каля 25-ці, ды й шмат старэйшых прыйшло на ўрачыстасьць. Настаяцель Парафіі мітр. прат а. Васіль Андраюк распачаў урачыстасьць малітваю. Вельмі добра спраўіўся Дзед Мароз, раздаючы дзеткам багатыя падарункі. Добра прайшла й мастацкая частка. Малы Хрыстофэр Азарка сказаў вершык «Дзядуля Каляда»; тут-жа зарганізаваўся хор, які прасьпяваў некалькі Калядак. Дэклямацыі ды сьпевы прыдалі урачыстасьці сьвяточны Калядны настрой ды прыпомнілі старэйшым Каляды на Беларусі.

**Васіль Русак**

*Постаці*

# «ЛІРНІК КРАІНЫ ВЕТЛАЙ»: МІКОЛА РАВЕНСКІ



Мікола, сын Якуба, нарадзіўся 5 сьнежаня 1886 г. у маёнтку Капланцы Чэрвеньскага раёну (былы Ігуменскі павет), дзе ягоны бацька ўсё сваё жыцьцё быў садоўнікам. Першыя пачаткі граматы ён атрымаў ад бацькі, а ў сямігадовым узросьце пачаў наведваць вясковую школу. Адораны музычна, у 1895 г. паступае ў менскі архірэйскі хор на поўнае утрыманьне і бясплатную навуку. Там хлапчук прабыў да 1903 году, калі быў накіраваны ў Наваградак дырыгэнтам царкоўнага хору і на працу ў школе. Жаданьне паявлічыць свае веды ў галіне музыкі прывяло Равенскага на трохгадовыя курсы дырыгэнтаў у Маскве, якія ён скончыў у 1914 годзе. Тады-ж ён быў вымушаны пакінуць Навагрдак праз падзеі першай сусьветнай вайны ды эвакуацыю. У 1915 г. ён працуе ў вайсковым будаўніцтве на пабудове акопаў, крыху пазьней — загадчыкам складамі. На пачатку 1919 г. пераязджае ў Менск, дзе працуе дырыгэнтам царкоўнага хору пры Кацярынінскім Саборы, адначасова выкладаючы ў школах сьпевы й музыку.

У 1920 г. М. Равенскі па просьбе беларускага работніцкага клюбу пачынае арганізацыю беларускага хору. Тут, сумесна з Ул. Галубком, сыстэматычна ладзіў канцэрты, але масавы арышт у 1922 г. ня толькі сяброў клюбнага камітэту і ягонага загадчыка, якім быў родны брат Равенскага (загінуў у 1937 г. у менскім НКВД), а ўсёй інтэлігенцыі, што барала ўдзел у канцэрце (Лёсіка, Ільлючонка, Ляжневіча, Калевіча і шмат іншых, пераважна чыгуначнікаў) цалкам спаралізавала працу.

У 1921 г. Равенскі бярэ ўдзел у вялікай экспедыцыі, заарганізаванай Інбелкультам на чале з мастаком Полазовым, накіраванай у Слуцак. У 1922 г. М. Равенскі распачаў працу на пасадзе хормайстра ў Менскім Гарадскім Тэатры. У 1922 г. выходзяць з друку зборнік песьняў, народных апрацовак і ўласных твораў кампазытара на вершы беларускіх паэтаў. У тым-жа годзе ён піша апэрэту на словы В. Дуніна-Марцінкевіча «Залёты», ноты якой загінулі, і кантату для хору «Курган» на словы Канстанцыі Буйла. У 1923 годзе Наркам Асьветы накіроўвае Равенскага ў Маскву для здабыцьцця вышэйшай музычнай асьветы. У 1930 г. здае дзяржаўныя іспыты і атрымоўвае дыплём аб заканчэньні маскоўскай кансэрваторыі. Падчас навучаньня з'яўляўся сябрам-карэспандэнтам Беларускае Акадэміі Навук. Багата пісаў: 22 фугі для фартэпіяна, зь якіх 2 дзьвухгалосныя, 5 – трохгалосных, 11 чатырохгалосных, адна васьмігалосная: кантату для хору, салістаў з сімфанічным аркестрам на словы Янкі Купалы; апрацоўкі беларускіх народных песьняў.

У 1929 г. у ліпені Галадзед зрабіў прапанову Уладзімеру Дубоўку напісаць такое лібрэта, каб опэра сталася арыгінальным беларускім творам, а Равенскаму — музыку да яе. Былі вылучаны сродкі, невялікія, але дастатковыя для пачатку працы.

Перш-наперш трэба было адшукаць адпаведны літаратурны матэрыял. Пасьля доўгіх пошукаў урэшце спыніліся на паэме «Браніслава». На аснове паэты быў дэтальна распрацаваны плян опэры, якая мелася быць з трох актаў, абмеркаваны дэкарацыі да кожнага акту. Разыходжаньні паміж паэмай і лібрэта былі даволі значныя, найперш гэта выявілася ў характарах пэрсанажаў, завостраньні драматызму. Ня маючы адпаведных народных мэлёдыяў, Равенскі і Дубоўка заарганізавалі паездку на Магілёўшчыну для запісу народна-песеннага матэрыялу. Падчас гэтай экспедыцыі яны напісалі «Ліпнёвы гім». Спачатку тэкт яго быў надрукаваны, распаўсюджаны ў Менску, выкананы хорам, але неўзабаве забаронены як 'нацдэмаўскі'.

Пасьля звароту з Магілёўшчыны ў Маскву Дубоўка распачаў працу над лібрэта. Асабліваяа ўвага зьвярталася на ролю лерніка: гэта быў самастойны нумар, пралёг опэры. Сьпеў лерніка пры закрытай заслоне мусіў сканцэнтраваць і падрыхтаваць слухачоў. Сьпеў лерніка пачынаецца так: «Многа Бог пракоаў меў, пасылаў па сьвеце іх». Поўны тэкст сьпеву лерніка складаўся з 8-10 зваротаў і вызначаўся эзопавай мовай, быў цесна зьвязаны са зьместам опэры, дзе Браніслава ўвасабляла Беларусь, а Пан — Расею.

Пісаньне лібрэтта і музыкі адбывалася супольна, таму Дубоўка ведаў кожны такт мэлёдыі і часам напяваў сабе ці каму іншаму. Асабліва яму падабалася музыка лерніка, арыя Пана «Прэч, псы, ня кратайце рукамі» ды арыя Браніславы «Зарасьлі мае сьцежкі-дарожкі»:

*Зарасьлі мае сьцежачкі, зарасьлі мае дарожкі зялёненькім лапушком.*
*Зялёненькім лапушочкам, зялёненькім лапушочкам пасьцялю пасьцелечку, пасьцелечку пасьцялю*
*А паслаўшы пасьцелечку, а паслаўшы пасьцелечку, сном глыбокім задрамлю,*
*Адпачну я сном глыбокім, адпачну я сном глыбокім, можа, мамачку прысьню.*
*Сном глыбокім задрамлю я, сном глыбокім задрамлю я, і ніхто мяне ня ўчуе, і ніхто мяне ня ўчуе,*
*толькі маці мо' пачуе, толькі маці адна.*

Па нататках Равенскага, якія цудам захаваліся, можна ўявіць музычныя характары галоўных герояў першай беларускай опэры «Браніслава»:

Лернік — лірычны тэнар. Мэлёдыя запісана ад лерніка на Магілёўшчыне. Гэта не звычайны лернік, ягоная роля падрыхтаваць слухача да ўспрыняцьця опэры. Сьпеў пачынаецца спакойнай мэлёдыяй з паступовым адыходам у бок узварушваньня.

Браніслава — лірыка-драматычнае сапрана. Яе галоўная арыя, таксама створаная на аснове мэлёдыі народнай песьні, запісанай на Магілёўшчыне, выконвалася ў першым і трэцім актах. У першым акце маладая дзяўчына Браніслава сьпявала песьню «Зарасьлі мае сьцежкі-дарожкі», якая адзначалася іншым музычным афармленьнем, настроем спакойнага сумаваньня, дзявочных думах пра будучыню. У трэцім акце тая самая песьня несла настрой трывогі, непакою.

Пан — магутны, густы бас. Адна з найгалоўнейшых арыяў адзначана ненавісьцю пана да Браніславы за страту доўгачаканага сына. Ён адкідае ўсе прапановы прысуду ад сваіх прыбліжаных і абяцае знайсьці найжахлівейшы прысуд: замуроўвае Браніславу ў каменны слуп.

Да лета 1930 г. першы акт быў скончаны, а да апошніх двух былі напісаныя галоўныя музычныя сцэны. Толькі неўзабаве Дубоўку арыштоўваюць, і ўвесь матэрыял кампазытар па запатрабаваньню аддае ў Наркам Асьветы. Назад ён яго не атрымаў.

З 1930 г. М. Равенскі выкладае ў Менскім Беларускім Музычным Тэхнікуме, а крыху пазьней у новазакладзенай Беларускай Кансэрваторыі. Адначасова выконвае абавязкі загадчыка навуковай часткі, не пакідае пісаць музыку. Зь вялікіх формаў за гэты час была напісаная музыка для смычковага квартэту і сюіта. Абодва творы былі пабудаваныя на беларускіх народных матывах.

Амаль бесперапынны перасьлед за нацдэмаўшчыну перашкаджаў творчай працы. Каб хоць крыху пазьбегнуць яго, Равенскі ў 1940-41 навучальным годзе пераязджае ў Магілёў, але ў хуткім часе вяртаецца ў Менск. 23 ліпеня 1941 г., калі гарэў Менск, у полымі загінулі ўсе рукапісы Равенскага, у тым ліку чарнавікі «Браніславы».

У 1943 г. Равенскі пераязджае ў Чэрвень, дзе стварае музыку на цакоўныя малітвы: два нумары «Херувімская», «Міласьць Міра», «Веруючы» для хору і солё барытона, «Ойча наш», а таксама невялікі канцэрт «Слава з вышніх Богу» Там-жа занава была напісана музыка да першага і другога актаў «Залётаў». У 1944 г., калі Равенскі пераехаў у Менск, ён аддаў ноты ў аддзел мастацтва пры БЦР. Крыху пазьней сконыў трэйці акт, але тады ўжо пачалася эміграцыя ў Нямеччыну. Увесь матэрыял быў вывезены, але першы акт загінуў у дарозе. Гэтак і паўторная спроба напісаньня «Залётаў» аказалася марнай.

Эміграцыя нялёгка давалася Равенскаму. У лісьце да Антона Адамовіча Юрка Віцьбіч згадвае пра той час: «Мне пашанцавала ў сваім нарысе «Плыве з-пад Сьвятое Гары Нёман» прыгадаць у найлепшым пляне пра візыту Равенскага і Дубоўкі да Якуба Коласа, пра якую й пачуў ад яго. Аднак я абавязкова мушу напісаць аб ім адмысловы нарыс тым болей, што нейкі час жылі пад адным дахам аднэй сям'ёй, пакутвалі разам. Прыгадваецца, як нас (Равенскі, Тодар Лебяда, Віцьбіч) прывезьлі ў вёску Эмеркінген-Вюртэмберг для працы ў баўэраў. Гэтыя баўэры аглядалі нас з усіх бакоў, як тых коней, і доўгі час не хацелі браць Равенскага, як старога, ды мяне, з прычыны мае старое маці. Усё-ж Равенскі трапіў да аднае баўэршы-салдаткі, у якой, акрамя яго, працавалі 4 "OST". На другі дзень пасьля прыходу французаў Равенскі зьнянацку вырашыў вярнуцца ў СССР, бо тое-ж рабілі дзесяткі хлопцаў і дзяўчат, што працавалі ў Эмеркінгене. Мне без асаблівых цяжкасьцяў давалося давесьці яму, што для яго гэты намер разназначны самагубству. I ў дзень, прызначаны для рэпатрыяцыі, ён на досьвітку разам з маёй сям'ёй пакідае Эмеркінген. Капітуляцыя Нямеччыны вызваліла яго ад працы ў баўэра, але бадай адразу-ж ён разам са мной трапляе на тартак Карла Фукса ў маленькім швабскім гарадку Эгингене, дзе, між іншым, жыў Васіль Рагуля з сынам. Што з тае волі, калі няма грошай, каб выкупіць паёк?

Праца на тартаку, дзе трэба аншпугамі накатваць на ваганетку дубы, потым падкатваць іх да пілаў і нарэшце адкатываць убок важкія дошкі, зьяўляецца аднэй з найцяжэйшых фізычных працаў. Усё-ж увечары у сьціплым пакойчыку пры гэтым-жа тартаку Равенскі сам-насам са сваёй вернай прыяцелькай. Адзіным і найдаражэйшым ягоным скарбам, зь якім ён ніколі й нідзе не разлучаўся, зь якім трапіў з бацькаўшчыны на чужыну, зьяўлялася скрыпка. Амаль не разгінаюцца апухлыя пальцы, але з-пад смыку плывуць адна за аднэй родныя мэлёдыі, і нарэшце пяе сам музыка:

*Ці ня быстрая рэчка ваду замуціла?*
*Чаго плачаш, дзяўчынка?*
*Ці не матуля біла?*

Паблізу пакрысе зьбіраюцца немцы. Ім падабаюцца гэтыя мэлёдыі, але разам з тым яны дзівяцца з таго, як можна пасьля аншпугу трымаць у руцэ смык, хтосьці зь іх называе музыку недарэкай. Але што з таго?

*Няхай гавораць усякае ліха,*
*А мы з табой, дзяўчынка,*
*Любімося ціха».*

(Ліст ад 11.11.1956 г. захоўваецца ў Архіве БІНІМу).

Праз некаторы час М. Равенскі апынуўся ў Бэльгіі. Пачаўся новы, няхай кароткі, але надзвычайна плённы этап жыцьця, які добра насьветлены ў кнізе Б. Рагулі «Беларускае студэнцтва на чужыне».

**Лявон Юрэвіч**

# СЬВ. ПАМЯЦІ ІНА РЫТАР-КАХАНОЎСКАЯ



Нарадзілася Іна Рытар 14/27 сьнежня 1906 году ў Адэсе, дзе па ходу працы давялося ў той час быць бацьком Іны. Яе дзяцінства зьвязанае і з Адэсай і зь Беларусьсю, да бадай найбольш зь Беларусьсю, зь мястэчкам Ярэмічы на Наваградчыне. У сваіх успамінах-нататках в.п. Іна Рытар наймілей і найбольш апісвала якраз сваё дзяцінства зьвязанае зь Беларусьсю, куды штагоду пасылалі яе бацькі. У Адэсе нябожчыца й вучылася ды пазнаёмілася зь беларускім рухам у часе рэвалюцыйных (1917-20) гадоў.

На пачатку 20-х гадоў Іна Рытар пераяжджае ў Менск ды жыве там да пачатку трыццатых гадоў. У Менску зьбліжаецца зь беларускім рухам, а паступіўшы ў Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт, як яна падкрасьляла — «маю Альма Матэр», — апынаецца ў гушчы беларускага нацыянальнага жыцьця.

Іна Рытар была актыўнай удзельніцай тагачаснага жыцьця беларускае студэнцкае грамады ў Менску, брала ўдзел у студэнцкіх зборках, дасьледных экспэдыцыях, культурных пачынаньнях. Вучылася Іна Рытар на гістарычным аддзяленьні пэдфаку, якое і закончыла. Унівэрсытэт зрабіў на яе вялікі ўплыў, на фармаваньне беларускага нацыянальнага сьветагляду. У тым часе яна была блізка зьвязаная з Ю. Бібілай, М. Улашчыкам, Б. Папоўскім і інш. Захаплялася выкладамі М. Даўнар-Запольскага, У. Пічэты, В. Дружчыца. Улетку 1930 году выходзіць замуж. Муж быў тэхнік, і па ходу працы маладыя хутка мусілі пераехаць у Маскву.

У Маскве Іну спаткала першае вялікае гора — напачатку трыццатых гадоў памёр сын-пяршынец, а затым арыштавалі мужа, якога выслалі ў канцэнтрацыйны лягер. Іна засталася з маленькай дачушкай. На самым пачатку нямецка-савецкай вайны яна пераехала ў родныя Ярэмічы, дзе цалком аддалася настаўніцкай працы ды грамадзкаму руху. Па заканчэньні вайны перабіраецца ў беларускі лягер у гор. Рэгенсбургу, дзе становіцца настаўніцай нямецкай мовы ды бярэ ўдзел ў літаратурным жыцьці лягеру. У Рэгенсбургу-ж напаткала яе новае незалечнае гора — трагічна гіне ад удару самаходу сьйная дачушка.

Вясной 1950 году перабіраецца ў ЗША. Спачатку жыла ў Нью Ёрку. Брала ўдзел ў арганізацыі БАЗА, актыўна супрацоўнічала зь БІНІМАМ, Крывіцкім Навуковым Таварыствам. У Нью Ёрку закончвае, найбольш з мэтай удасканаленьня ангельскае мовы, бізнэсовы каледж. У сярэдзіне пяцьдзесятых гадоў выходзіць замуж за Аўгена Кахоноўскага ды разам зь ім пераяжджае ў Клііўленд.

У Кліўлендзе працуе на розных працах, шмат піша ды бярэ ўдзел у працы Беларускага Жаночага Згуртаваньня, дапамагае моладзі, доўга і аддана выкладае ў Беларускай Дапўняльнай Школе. Яна была шчырай удзельніцай шмат якіх грамадзкіх пачынаў, а грамада гэтаксама яе паважала, шанавала.

Іна Рытар-Кахаnoўская, ведамая ў літаратуры пад псэўдонімам Аляксандры Саковіч, пакінула па сабе шмат працаў, найбольш успамінаў ды выдадзеную ў 1986 годзе Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва кнізе «У пошуках праўды» у сэрыі «Беларускія пісьменьнікі і паэты на эміграцыі». Апошнім гадамі пра нябожчыцу было напісана цімала добрых артыкулаў й ў друку на Беларусі.

Памерла сьв. памяці Іна Рытар-Кахаtoўская 8-га студзеня 1997 году. Пахаваная побач мужа Аўгена, на беларускай дзялянцы кліўлендскіх гарадзкіх могілкаў.

## У РАНІШНІМ СУТОНЬНІ

Неба і прыцісьне і ўзнясе.  
Я — травінка, ці з анёлам побач...  
Мы пад небам роўныя — усе!  
На зямлі нябёсы нам у помач.

У грудах — намучаны спачын  
і вярыгі побыту зямнога.  
У аблоках — сьвятадухаў чын  
І надзея быць бліжэй да Бога.

Паглядаю на бялёсы сьцень.  
Сілы надае мне сінь сьвітаньня.  
На зямлі жыцьця кароткі дзень  
Там, у высях, можа, вечным стане?

**Сяргей Панізьнік**

### Ахвяраваньні на выдавецтва Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва

| | |
|---|---|
| Г. Руднік | ам.дал. 100 |
| Б. Даніловіч | 50 |
| У. Ракуць | 50 |
| А. Акуліч | 50 |
| М. Каленік | 50 |
| У. Пеляса | 30 |
| А. Сільвановіч | 50 |

## ПАДЗЯКІ

З удзячнасьцяй адзначаем, што газэтныя выразкі і іншыя прэсавыя матар'ялы, што ўзбагацілі зьмест «Беларуса», нам прыслалі: І. і Я. Сурвіллы, Ю. Найдзюк, Л. Шурак, М. Швэдзюк, А. Маркевіч, А. Сільвановіч, М. Белямук, М. Раецкі, С. Яновіч, В. Акавіты, В. Сянькевіч, Л. Яцэвіч, Я. Жамойцін, Н. Жызьнейскі, К. Верабей, Ю. Кіпель, Б. Кіт, К. Акула, В. Парук, Б. Рагуля, В. Мельяновіч, А. Міцкевіч, С. Ballerene, А. Кіпель, Ю. Андрусышына.

# СЬВ. ПАМЯЦІ ІВАН КАНАРЧУК

Нарадзіўся на Беларусі 20 сакавіка 1912 году. Памёр 14 студзеня 1997 году у Балтыморы, штат Мэрылэнд. Пахаваны на могілках пры царкве Сьв. Мікалая у Мільвілі, Нью-Джэрзі.

Пакінуў у смутку жонку Олю дзьвюх дачок Зінаіду і Ларысу, сына Івана малодшага, зяця Дагласа і нявестку Марыю і трох унукаў, сястру Марыю і брата Лявона.

**Сям'я, родныя й знаёмыя**

# НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

### Прыслана непасрэдна ў рэдакцыю:

| | |
|---|---|
| В. Махнач | 500 |
| М. Сагановіч | 100 |
| У. Набагез | 100 |
| В. Заморская | 50 |
| Г. Руднік | 50 |
| М. Каленік | 50 |
| М. Чупракоў | 50 |
| П. Нядзьвецкі | 30 |
| К. Брэнан | 30 |
| Л. Бандзік | 30 |
| Л. і Е. Трусэвіч | 25 |
| Л. і Е. Трусэвіч (замест кветак на магілу Міхася Махнача) | 75 |
| Р. Завістовіч | 25 |
| У. Праскевіч | 50 |
| З. Левіт | 30 |
| В. і З. Кіпель (у памяць І. Канарчука) | 50 |

*Ліста ад сп. У. Акавітага*

| | |
|---|---|
| Др. В. Мілянцэвіч | аўстр. дал. 100 |
| У. Акавіты | 50 |
| А. Руткевіч | 40 |
| П. Пачопка | 50 |
| Я. Аршанскі | 40 |
| У. Зеляneўскі | 50 |
| а. М. Бурнос | 50 |
| А. Садоўскі | 50 |
| М. Костыш | 50 |
| За продаж газэтаў | 40 |

### Фінансавая справаздача за Калядныя Віншаваньні

*Ад Трыгубовіча Сяргея*

| | |
|---|---|
| В. Бельмач | 100 |
| Б. Даніловіч | 100 |
| Ю. Кіпель | 100 |
| Л. Гутырчык | 90 |
| М. Абрамчык | 50 |
| Аддзел БАЗА у Нью Джэрзі | 50 |
| В. Андрэюк | 50 |
| Я. Азарка | 50 |
| Бел-Амэр. Задзіночаньне Вэтэр. | 50 |
| Кансысторыя БАПЦ | 50 |
| Ф. Непейн | 50 |
| Парах. Жыровіцкай Божай Маці | 50 |
| Сэктар Рады БНР у Нью-Джэрзі | 50 |
| А. Сільвановіч | 50 |
| Ст. Тамара | 50 |
| В. Кажан | 40 |
| А. Дубяга | 30 |
| А. Субота | 30 |
| М. Тулейка | 30 |
| В. Дубяга | 25 |
| В. Русак | 25 |
| М. Сьнежка | 25 |
| Л. Стагановіч | 25 |
| А. Лашук | 20 |
| У. Машанскі | 20 |
| Л. Норык | 20 |
| С. Трыгубовіч | 20 |
| А. Шукелойць | 20 |
| Я. Яновіч | 20 |
| Г. Дубяга | 20 |
| Л. Кавалеў | 20 |
| М. Каранеўскі | 10 |

### Фінансавая справаздача за снежань 1996

*Ад Трыгубовіча Сяргея*

| | |
|---|---|
| А. Тэлеш | 110 |
| В. Балтрушэвіч | 60 |
| М. Каранеўскі | 60 |
| Я. Аўдзей | 50 |
| Л. Норык | 50 |
| Э. Пітушка | 50 |
| М. Сьнежка | 50 |
| І. Цупрык | 50 |
| П. Міраловіч | 30 |
| Н. Орса | 30 |
| В. Русак | 30 |
| А. Стукаліч | 30 |
| Л. Шурак | 30 |
| Р. Галяк (заміж кветак на магілу Аркадзя Ліхача) | 20 |
| Р. Жук-Грышкевіч | 30 |
| Р. Жук-Грышкевіч (заміж квітак на магілу а. Рабэрта Тамушанскага) | 10 |
| Каса Рады БНР | 200 |
| В. Тур | 60 |
| О. Грыцук | 50 |
| І. Бурдзь | 40 |
| Л. Кавалёў | 40 |
| В. Пашкевіч | 40 |
| М. Русак | 40 |
| К. Шыкалюк | 40 |
| Ю. Азарка | 30 |
| А. Маркевіч | 30 |
| П. Нягода | 30 |
| І. Шыбут | 30 |
| Я. П. | 25 |

### Фінансавая справаздача з пабудовы помніка ахвярам камуністычнага тэрору ў Беларусі — ў Мідлэнд, Канада за гады: 1994, 1995, 1996:

| | |
|---|---|
| ПРЫБЫТКІ: | |
| Ахвяры | 2,968.24 |
| Працэнту ў банку | 5.52 |
| **Разам прыбыткаў** | **2.973.76** |
| ВЫДАТКІ: | |
| Behrends Bronze Limited, Cast Bronze Plaque | 1,099.40 |
| The Martyr Shrine, пабудова манумэнту | 400.00 |
| Пошта й факсы | 293.10 |
| Фатакопіі | 180.20 |
| Канцылярыйныя | 25.68 |
| Кветкі | 39.30 |
| Фатаграфіі й плястыковыя капэрты ў архіў | 30.95 |
| Airport Service Toronto – Barrie (а. Надсон прыляцеў уночы) | 34.00 |
| падарожжа самалётам (панад 700.00 кан.дал.) | 500.00 |
| **Разам выдаткаў** | **2,602.72** |
| **Балянс на 31 сьнежня, 1996 году** | **371,04** |

**Др. Раіса Жук-Грышкевіч**  
**Старшыня**